

# Веснкі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 11 (645)**
**Лістапад 2019 г.**

# Пяшчотнае барбарства, альбо ці будуць наперадзе ў нас цёмныя стагодзьдзі

Амэрыку часта называюць імпэрыяй, хоць па сутнасьці паняцьце імпэрыі супярэчыць Канстытуцыі краіны ды намерам айцоў-заснавальнікаў ЗША, якія як раз імкнуліся вызваліцца з-пад улады імпэрыі. Яны арыентаваліся на рэспубліканскі лад, менавіта на Рымскую рэспубліку. Але ўплыў амэрыканскага прыкладу можна параўноўваць з такім у часы Рымскай імпэрыі, калі сьвет дзяліўся на рымлянаў і барбараў.

Некалі я чытаў пра ўзьнікненьне і заняпад імпэрыяў, пра Цэзара і Сцыпіёна, Ганібала і Спартака. Дынамічныя падзеі з гісторыі здаваліся такімі прыцягальнымі і цікавымі ў застойныя часы позьняга савецкага сацыялізму. З часам, асабліва ў апошнія 10-15 год, калі падзеі ў нечым падобныя да позьняй рымскай эпохі сталі разгортвацца тут, у ЗША, то яны здаюцца досыць цікавымі, але зусім не прыцягальнымі.

І падобныя зьявы распаўсюджаныя амаль ва ўсіх краінах Вольнага сьвету, ад Галяндыі да Новай Зэляндыі, ад Паўднёвай Афрыкі да Паўночнай Македоніі. Пяшчотны барбарызм, дэкадэнцкае “загніваньне”. Замежнікі-імігранты ваююць у войску за морам, грамадзяне балююць дома. Межаў амаль няма, як і ў Рыме часоў позьняй імпэрыі. Такое сабе кідкае й разрэклямаванае архірэтра, што падносіцца як прагрэс і шлях наперад. Пад маркаю клопату аб роўнасьці, дэмакраты ды яшчэ цэлым кошыку прыгожых паняцьцяў заходнія грамадзтвы паволі, часам незаўважна, робяць крокі назад у гісторыі, да барбарства, цёмных стагодзьдзяў, сваволі, хаосу і галечы.




Спробы рэвізіі асноўных паняцьцяў і падвалінаў Заходняй цывілізацыі пачаліся паступова, са скаргаў на засільле “мёртвых белых мужчынаў” у літаратурным каноне, а потым, далейболей, і ва ўсіх галінах чалавечай дзейнасьці. Калі напачатку такія сьцверджаньні ўспрымаліся як анэкдот і маргінальная зьява, дык з часам адмаўленьне каштоўнасьцяў Заходняй цывілізацыі ва ўсіх галінах жыцьця стала, перш дапушчальным, а цяпер — агульнапрынятым пунктам гледжаньня ў большасьці акадэмічных установаў, агульнапрызнаных мэдыяў (mainstream media), у забаўляльнай індустрыі і ў палітыцы Дэмакратычнай партыі. Вяршынства закону, ужыцьцё лёгікі замест эмоцыяў і перавага здаровага сэнсу над ілюзорным мысьленьнем ды выдаваньнем пажаданага за рэальнае (wishful thinking) зьяўляюцца дасягненьнем і вынікам тысячагодзьдзяў разьвіцьця Заходняй цывілізацыі.

Цяпер, праз дзьве тысячы год пасьля Хрыста, пасьля трыюмфу Заходняй цывілізацыі невялікая праслойка адукатараў, мысьляроў і забаўляльнікаў вырашыла, што “гэта ніякі не трыюмф”, а трагедыя, і ўсё мусіць быць папраўлена і пераменена. Праз сыстэму адукацыі ў ЗША стала ўводзіцца, а тады і дамінаваць думка, што Амэрыка — гэта несправядлівая, крыважэрная і захопніцкая краіна, гісторыя якой заплямленая ад самага пачатку генацыдам і рабствам.

Сярод літаратуры па гісторыі ЗША паступова на самы высокі рэйтынгавы ўзровень падняўся твор левака-экстрэміста Гаўарда Зына “Народная гісторыя Злучаных Штатаў”. Гэтая фальсыфікатарская літанія “злачынстваў” ЗША супраць сваіх жыхароў ды іншых народаў ёсьць цяпер самай вядомай кнігай па гісторыі Амэрыкі. І зроблена гэта не дарма. Скрозь па ўсіх праграмах абавязкавай гуманітарнай падрыхтоўкі кніга Г. Зына гадамі рэкамэндуецца як асноўная крыніца і падручнік праграмы. І ў выніку большасьць прафэсіяналаў — людзей з вышэйшай адукацыяй, што фармуюць грамадзкую думку краіны — ёсьць прадуктам адукацыйнай апрацоўкі, што даводзіла хібнасьць, несправядлівасьць, грахоўнасьць гэтай краіны. Таму бальшыня гэтых людзей крытычна і недаверліва ставяцца да амэрыканскіх (сваіх!) дасягненьняў, саромеюцца ўхвалаў Амэрыкі ды амэрыканскага (свайго!) ладу жыцьця, на кожным павароце амэрыканскай гісторыі ды палітыкі бачаць злую волю ды інтрыгі змоўшчыкаў — “агентаў карпарацыяў”, праварадыкалаў, белых супрэматыстаў ды Ку-Клукс-Кляну. Паняцьце патрыятызму перакручанае і скампрамітаванае.

Парадасальным чынам, сёньня чым вышэй узровень адукацыі чалавека, тым менш верагодна, што ён будзе лічыць сябе амэрыканскім патрыётам. Тут навідавоку непасрэдны ўплыў адукацыі, асабліва каледжу ды ўнівэрсытэту, на фармаваньне пагардлівага, негатыўнага стаўленьня да сваёй краіны, яе гісторыі ды палітычнай сыстэмы. Прэзыдэнт Абама зьяўляецца адным з прыкладаў гэтага ўплыву, калі чалавек быў высунуты леварадыкальнымі сіламі ў Дэмпартыі як прадстаўнік “прагрэсіўнай плыні” па зломе ўсталяванай два стагодзьдзі таму сыстэмы, але для недасьведчаных ягонае падарожжа ва ўладу падносілася як прыгожы гістарычны “хэпі энд” і вяртаньне справядлівасьці для афраамэрыканцаў. Пры гэтым Абама нават не афраамэрыканец, г. зн. нашчадак колішніх рабоў ЗША, але бірасавы індывід, амэрыканец кенійскага паходжаньня, які заўсёды належаў да верхняй сярэдняй клясы. Пры Абаму ў дыскрэтны спосаб усяляк культывавалася пагарда да традыцыйнай амэрыканскай культуры, хрысьціянскай рэлігіі ды белай большасьці краіны, асабліва менш адукаванай яе часткі — так званых “рэднікаў” (red necks). Зь іх можна адкрыта кпіць, безпакарана высьмейваць у карыкатурах і фільмах. Цяжка ўявіць сабе, каб гэта было вынікам дзеяньняў амэрыканскага прэзыдэнта. І ня дзіва, бо Абама, калі прааналізаваць ягоныя дзеяньні й выказваньні, лічыў сябе прэзыдэнтам сусьвету, а ня толькі й ня столькі Амэрыкі.

Тыя, хто выступалі за рэлігію і супраць бэшчаньня амэрыканскай гісторыі, супраць зьняслаўленьня амэрыканскіх вайскоўцаў ды супрацоўнікаў праваахоўных органаў, былі абвешчаны цемрашаламі ды рэтраградамі, іхнае права доступу

*заканчэньне на бачыне 3*

# Кастрычніцкі сход Згуртаваньня "Пагоня"

У суботу, 12 кастрычніка, у Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў чарговы сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Напачатку старшыня арганізацыі сп. Віталь Зайка распавёў пра нядаўнія мерапрыемствы "Пагоні" і пра тэматыку сходаў, што маюць адбыцца ў наступныя месяцы. Ён таксама спыніўся на мэтах і прынцыпах арганізацыі для тых, хто ў першы раз прыйшоў на сход.

Затым з гутаркаю пра анлайн-гігіену і кібэрбясьпеку выступіў сп. Віталь Крэмез – кіраўнік антыхакерскай кампаніі. Ён коратка распавёў пра сябе, што прыехаў у Амэрыку 11 год таму і напачатку займаўся разнастайнымі працамі, а потым пайшоў вучыцца ў каледж і атрымаў спэцыяльнасьць праграміста са спэцыялізацыяй у галіне кібербясьпекі. Потым была праца ў пракуратуры ў галіне кібэрзлачынстваў у межах барацьбы супраць хакерства з нацыянальна-дзяржаўным кампанэнтам, г. зн. супраць атакаў збоку замежных дзяржаўных структураў.

Затым прамоўца спыніўся на клясыфікацыі хакераў і іхных злачынстваў. Сярод хакераў, паводле мэтаў, якія часам перакрыжоўваюцца, можна сустрэць тых, што займаюцца фінансавымі злачынствамі. Яны робяць крадзяжы ды махінацыі праз доступ да банкавых рахункаў і крэдытных картаў і выкрадаюць ідэнтычнасьць/прыватную інфармацыю, каб праз яе дабрацца да фінансавых рэсурсаў. Наступную групу складаюць дзяржаўныя, або зьвязаныя з замежнымі дзяржавамі, хакерскія структуры на службе такіх краінаў як Расея, Кітай, Іран, Паўноч. Карэя. Часам, як у выпадку Карэі, яны такама займаюцца крадзяжом фінансавых сродкаў для папаўненьня бюджэту краіны. Яшчэ адною групаю зьяўляюцца сацыяльныя ды экалягічныя актывісты – хакерскія "робін-гуды", як група "Anonymous", якія ўважаюць сваю дзейнасьць супраць арганізацыяў, дзяржструктураў ды кампаніяў, справядлівай і шляхотнай, але на самой справе яны мала чым адрозьніваюцца ад вандалаў і хуліганаў. Неарганізаванай і непрадказальнай катэгорыяй ёсьць самотныя хакеры, што маюць свае спэцыфічныя і нават дзіўныя прычыны для хакерства, часта робяць гэта проста для цікавасьці ды сваеасаблівага спорту.

Затым сп. Віталь Крэмез спыніўся на тым, як зрабіць сябе менш даступнай мішэньню для хакераў і як абараніць свае сеціўныя рахункі ад патэнцыйных хакерскіх атакаў. Перш за ўсё, трэба ставіць абарону на свой кампутар ды мабільныя прылады, anti-malware, WPA2. Таксама ні ў якім выпадку не далучацца да бясплатнага Wi-Fi ў грамадзкіх месцах, не карыстацца інтэрнэт-кафэ для доступу на такія рэсурсы як банкавы рахунак, дзе хакеры найчасьцей знаходзяць сваіх ахвяраў.



*Віталь Крэмез*

Прамоўца спыніўся на распрацаваных злачынцамі тэхналёгіях, што выкарыстоўваюцца для фішынгу (phishing) і рознага кшталту махлярстваў з мэтай выцягнуць грошы або інфармацыю, што затым можа быць скарыстаная для пранікненьня на сеціўныя і банкавыя рахункі ахвяраў, у тым ліку блякаваньня сайтаў або іх частак для вымаганьня грошай (ransom attacks). Сярод махлярстваў, якія ўжываюцца для даверлівых людзей, распаўсюджаныя такія, дзе патрабуюць грошы наперад за дапамогу ў атрыманьні мітычных вялікіх грошай, як выйгрыш у лятарэю ці нечая спадчына. Таксама існуюць "рамантычныя" махлярствы, калі грошы выцягваюцца пад маркаю рамантычнай зацікаўленасьці.

Сп. Крэмез распавёў, як часам удавалася "на жыўца" злавіць хакераў, калі праз сьледваньне іхным ўмовам ім падсоўвалі пэўныя праграмы, праз якія потым вылічвалі IP-адрасы злачынцаў, а пасьля арыштоўвалі іх самых (так было з расейскім "ольгінскім" хакерам, які прыехаў адпачываць у Прагу).

Сярод іншых правілаў "кібэр-гігіены" ёсьць не ўсталяўваць аплікацыі, якіх няма ў нэт-крамах, бо існуе поўна злачынных праграмаў, якія існуюць у сыстэме Андроід, і мімікруюць пад падобныя легальныя аплікацыі. Наагул, у сувязі з гэты варта трымацца такіх простых правілаў:

- калі не шукалі нечага – дык і не ўсталёўвайце;
- калі паставілі – ужывайце толькі апошнюю, самую новую, вэрсію, бо на старых могуць быць вірусы;
- калі не ўжываеце нейкія аплікацыі, то іх лепш выдаліць.

Сярод апэратыўных сыстэмаў лепшыя Mac і Linux, чым MS Windows, а сярод браўзэраў лепей карыстацца Mozilla Firefox, чым IE або Opera.

Важна мець розныя паролі для розных рахункаў і розных мэтаў. Мажліва мець сыстэму на базе нейкага паролю, скажам: далучаючы да асновы паролю адну ці некалькі літараў з назвы сайту ці сэрвісу. Галоўнае, каб паролі на розныя сайты не былі ідэнтычныя. Таксама варта ўжываць encryption, каб крытычна важная інфармацыя не перасылалася простым тэкстам. Нават такія простыя меры робяць працу хакераў калі не немагчымай, дык значна складанейшай.

Затым сп. Крэмез адказаў на пытаньні: які messaging service бясьпечнейшы ("Gmail найлепшы, не карыстайцеся Viber"), пра PayPal, VPN, ці могуць хакеры дэшыфраваць фоты і PDF-выявы ("могуць"). Выступоўца распавёў пра розныя выпадкі ўзломаў: на Twitter, TicketMaster, CapitalOne, даў спасылкі на шэраг карысных сеціўных сайтаў у галіне кібэр-бясьпекі. Гутарка была сустрэтая прысутнымі з надзвычайнай увагай і цікавасьцю, і многія засталіся для прыватнай размовы з прамоўцам ужо пасьля афіцыйнай часткі сходу.

Сп. Зьміцер Левіт выступіў з кароткай гутаркай пра тое, як паводзіць сябе падчас кантакту з паліцыяй. Найперш памятайце, што паліцыянты такія самыя людзі, як астатнія жыхары, што іхная праца небясьпечная і поўная стрэсу, што апошнім часам леваліберальныя мэдыі стварылі вельмі дрэнны імідж паліцыі, грунтуючыся на перадузятай і непраўдзівай інфармацыі. Трэба дакладна выконваць загады паліцыянтаў, захоўвацца спакойна. Ведайце, што бойка з паліцыяй небясьпечная для жыцьця. Нават калі нападнік няўзброены, паліцыянт мае права і абавязак ужываць зброю, каб не дапусьціць яе захопу. У кожным разе паліцыя заўсёды імкнецца дапамагчы і спрабуе разабрацца, калі не правакаваць і не зьневажаць яе.

Затым прысутныя мелі мажлівасьць працягнуць гутаркі й знаёмствы пры сьціплых пачастунках.

**Віталь ЗАЙКА**

# Пяшчотнае барбарства...

*заканчэньне з бачыны 1*

да мэдыяў й сыстэмы адкуацыі для выказу сваіх паглядаў дэлегітымізавалася, і цэлы час рабіліся спробы іхнай ізаляцыі. Асабліва відавочным гэта стала пасьля абраньня на прэзыдэнцтва Дональда Трампа, калі ярасьць леварадыкалаў ад паразы на выбарах пераўвасаблялася ў атакі на іншадумцаў, у тым ліку запрошаных на кампусы, у кампрамітацыі, падлоўліваньне ўсіх недагаджаючых ім, у мінулых, сапраўдных ці ўяўных, як у выпадку вярхоўнага судзьдзі Кавана, грахах.

Павага да апанэнта, аб'ектыўнасьць, балянс паглядаў амаль зьніклі з дыскурсу агульнапрызнаных мэдыяў, зь фільмаў, заяваў Дэмпартыі ды ўнівэрсытэцкіх праграмаў. Рэдкім зьверам зрабілася і прэзумпцыя невінаватасьці, а ў адносінах да прэзыдэнта Трампа яна пераўтварылася ў прэзумпцыю вінаватасьці. Любыя дзеяньні ці выказваньні шматгадовай даўніны палітычных апанэнтаў, што лічацца заганнымі цяпер, але не лічыліся заганнымі ў той час – крыміналізуюцца і не прабачаюцца.

Мэтодыкай правядзеньня ў жыцьцё сваіх паглядаў левалібэралы абралі атакі на жыцьцёва неабходныя структуры грамадзтва і дзяржавы – эканамічны лад, паліцыю, войска і атамізацыю грамадзтва – замест адзінай нацыі левакі даводзяць існаваньне канглямэрату расавых, этнічных, полавых ды іншых групаў, што зьяўляюцца "паняволенымі" меншынямі, якім неабходна аб'яднацца ў супраціве агульнаму ворагу – беламу насельніцтву (канцэпт "інтэрсэкцыянальнасьці").

Важным элемэнтам лявацкай мэтодыкі ёсьць гістарычны анахранізм, калі гістарычныя фігуры вінавацяцца за тое, што не былі прыхільнікамі рухаў ды ідэяў, якіх у той час яшчэ не існавала! Гэта асабліва тычыцца зьявы рабства. Многія з айцоў-заснавальнікаў ганяцца левалібэраламі дзеля таго, што яны валодалі цёмнаскурымі рабамі. Іх не абходзіць, што ў 18 ст. ідэя роўнасьці людзей розных расаў яшчэ не была ўспрыманая як аксыёма, і давядзеньне грамадзтву яе хібнасьці ўзяло амаль стагодзьдзе высілкаў абаліцыяністаў ды спачуваючых ім. Маўляў, "як гэта айцы-заснавальнікі ня сталі абаліцыяністамі?!" Такім чынам, па лявацкай лёгіцы, Джордж Вашынгтон і Томас Джэфэрсан ня вартыя шанаваньня як рабаўласьнікі і, адпаведна, ставяцца пад сумніў матывы ды ідэі гэтых стваральнікаў ЗША. Але акурат на іх і была збудаваная найбольш эфэктоўная палітычная ды эканамічная сыстэма, што з годна вытрымала больш як дзьвесьце год выпрабаваньняў. А леварадыкалы, поўныя імпэту "палепшыць" або зьмяніць яе, улучна з такімі канцэптамі як электаральны каледж і балянс уладаў. Падобныя небясьпечныя экспэрымэнты часьцяком дрэнна канчаліся, успомнім Расею ў 1917 годзе, Гішпанію напачатку 1930-х гадоў ці Вэнэсуэлю пачатку 1990-х. Больш-менш нармальна функцыянуючыя грамдзтвы былі нізрынутыя у вір барбарства, гвалту, галечы.

Яшчэ адным з лявацкіх мэтадаў стала канцэпцыя, якую я ўмоўна называю барбарства – калі некрытычна вяртаюцца ва ўжытак рэчы й зьявы, нехарактэрныя для неэўрапейскіх цывілізацыяў. Яе праявамі зьяўляюцца максымальнае спрошчаньне адносінаў між людзямі, скасаваньне павагі да старэйшых, успрыманьне лаянкавых словаў як прыдатных да друку і публічнага ўжытку, павальны пераход на ўжывньне ежы з дапамогаю голых рук замест адпаведных прыбораў, татуажы й пірсінгі – зьявы, характэрныя для прымітыўных этапаў разьвіцьця народаў.

У дзялянцы маралі таксама адбываюцца зьмены – правы жывёлаў ставяцца ледзь не на ўзровень з чалавечымі. Адпаведна, полавыя дэвіацыі праклямавалі як "мэйнстрым", і, пад маркаю роўнасьці, замацавалі заканадаўча. Жыцьцё нібы праклямуецца найвышэйшай каштоўнасьцю, але ня ўсякае. Жыцьцё сфармаванага плоду, або нават нованароджанага дзіцяці, адрынутага ягонай маткай – нічога ня вартае, можа быць зьнішчанае як частка "мэдычнай працэдуры".

Вялікія зьмены адбываюцца ў сфэры рэлігійнай, калі ўплыў і аўтарытэт каталіцкай царквы, у выніку актыўнага выкрываньня нягодных паводзінаў сьвятароў, стаў найніжэйшы за ўсе часы. Са школы шмат людзей выносяць уражаньне, што кожная рэлігія ёсьць зло, і "агностык" цяпер найчасьцейшае самавызначэньне маладых людзей у адносінах да веры й рэлігіі. Гэта разбурае хрысьціянства як адно з важнейшых апірышчаў Заходняй цывілізацыі. Амэрыка, у параўнаньні з краінамі Заходняй Эўропы, доўга супрацьстаяла лявацкаму наступу, але прапаганда зрабіла сваю справу. Цяпер падтрымка рэлігіі, патрыятызму, шэрагу іншых унівэрсальных ідэяў, якія лічацца "кансэрватыўнымі", няўхільна зьмяншаецца. Чым гэта ня барбарства, калі занепадае ды касуецца рэлігійная маральнасьць і асноўныя запаветы Божыя, пакідаючы чалавецтва экспэрымэнтаваць з рэчамі, што ўжо даўно разгледжаныя, рэглямэнтаваныя ды вызначаныя хрысьціянствам.

Цяпер яшчэ цяжка сказаць, наколькі маюць рацыю прароцтвы аб набліжэньні канца Заходняй цывілізацыі. Але ўжо можна сказаць, што грамадзтва знаходзіцца ў крызісе. Яно падзеленае, і ў ім назіраюцца тэнцэнцыі, што нагадваюць шлях да таталітарызму ў Эўропе ў 1930-я гады. І гэта ня тычыцца прэзыдэнцтва Трампа ці папулярнасьці правых партыяў Эўропы, якія параўноўваць са зьявамі 80-гадовай даўніны. Хутчэй, гэта тычыцца скасаваньня чалавечых правоў – свабоды слова, якія гамуюцца пад прэтэкстам "барацьбы супраць нянавісьці", патаптаньня свабоды сходаў, калі контрдэманстранты могуць беспакарана зрываць імпрэзы, адмовы права на валоданьне зброяй, якое цэлы час знаходзіцца пад пагрозаю.

Падарваны прынцып вяршынства закону – калі нешта ў законах не падабаецца пэўным уплывовым групам, яны дзеюць не праз імкненьне належным чынам і праз належную парацэдуру, зьмяніць закон, але заклікаюць ігнараваць, а нават і парушаць закон, настойваючы на адмене пакараньня за яго. Мы бачым гэта ў дачыненьні да дэкрыміналізацыі нелегальнай іміграцыі, да адмовы перасьледу неаўтарызаванага агалошаньня клясыфікаванай інфармацыі, да больш лагоднага стаўленьня ў пэўных судах у адносінах да злачынцаў, калі яны належаць да расавых меншыняў, ды ў шэрагу іншых выпадкаў. Што гэта, як не юрыдычнае барбарства?!

З юрыдычнай тэорыі вядома, што недагляд за аховаю закону ў адной сфэры з часам перакідаецца на ўсе сфэры жыцьця. І праз тысячагодзьдзі чалавечага досьведу і рэкаў пралітай крыві гэта сканцэнтравалася ў афарызмах, што высечаныя ў граніце скрозь на судовых установах Заходняга сьвету – "закон суворы, але гэта закон, і ён мусьць выконвацца". Цяпер, здаецца, з крыкамі пра адкрытыя межы, інсынуацыі пра "масавую інкарцэрацыю" ды глярыфікацыю расістаў і злачынцаў кшталту Малкама Ікса, Хьюўы Ньютана, Анджэлы Дэвіс, тэрарыстаў з "Чорных пантэраў", "Падпольля сыноптыкаў" (Weather Underground) – гэта можна памяняць на: "...калі закон падабаецца". Чым гэта не барбарства, не закон джунгляў, калі віноўнасьць "ведзьмаў" вырашалася ўкіданьнем у ваду, чужаложцы пабіваліся каменьнем, а судовыя вырокі зацьвярджаліся князем ці султанам? Ці гэта тое, да чаго мы мусім вяртацца цяпер? Ці дзеля гэтага людзі ратаваліся ад тыраніі Лукашэнкі, каб на новым месцы знайсьці новае аблічча тыраніі, хай сабе і ў пачатквай, значна мякчэйшай форме?

Тым ня менш, судовая й выбарчая сыстэмы, падзел і збалянсаваньне ўладаў, правы штатаў ды свабоды асобы, замацаваныя ў Канстытуцыі – ня раз выводзілі нацыю з крызісаў ды цяжкіх часоў. Цяпер у руках сёнешніх людзей, у тым ліку беларусаў, што зьвязалі сваё жыцьцё з Амэрыкай і бачаць у Злучаных Штатах сваю будучыню, знаходзіцца – без перабольшаньня – лёс самай магутнай на сёнешні дзень, самай уплывовай і аўтарытэтнай краіны, на якую зьвернутыя позіркі ўсяго чалавецтва.

**Віталь ЗАЙКА**

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Радыё. Кропка.




Трамп раскрытыкаваў Радыё Свабода і Голас Амэрыкі. І вельмі добра. Дасьць Бог ад словаў да справы і гэтыя ўстановы, ад якіх у цяперашні час больш шкоды, чым карысьці, пазьнікаюць. Прыйшоў час, каб беларусы перасталі адносіцца да кожнага беларускамоўнага праекту (беларуская сэкцыя РС) як да сьвятой каровы. Бо гэта беларускамоўнасьць толькі мыліць (ад слова мыла) вочы. Радыё Свабода са сваім камсамольскім кіраўніцтвам і прапагандаю глябальнай павесткі – гэта шкодніцтва беларускай справе, а не яе падтрымка. А падтрымка з падвохам – гэта горш, чым вірус. Асабліва, калі гэты вірус прышчапляецца на глебу, дзе яшчэ несфармаваная нацыя, нясьпелы палітычны лад, незабясьпечаная моўная сытуацыя.

Ня трэба быць аналітыкам СМІ прасторы, каб бачыць, што ў Амэрыкі, пасьля абраньня на прэзыдэнта Трампа ўтварылася двайная павестка (agenda). Адна – унутраная, для ўласнай публікі, дзе змаганьне за праўду ідзе паміж вялізарнымі CNN, Fox і іншымі, трохі меншымі гульцамі. Другая – экспартная, з поўным прапагандысцкім веерам і ў рэчышчы глябальнага мэйнстрыму – лгбт, хатні гвалт, правы чалавека, сьмяротнае пакараньне, насаджэньне маральных аўтарытэтаў, распуста і акультызм пад відам мастацтва і г. д. Адзінае, што зьмянілася, гэта спыненьне чорнай кампаніі супраць Трампа, якую Свабода, у тым ліку беларуская, актыўна вяла перад выбарамі. Увесь іншы набор застаўся такім, як і быў. Гэта ня дзіўна, бо аднастайнасьці няма нават у амэрыканскай дыпляматыі. Трамп адно, а многія амэрыканскія амбасады зусім другое.

Найлепшае выйсьце для Трампа – гэта роспуск установы. Рэфармаваць яе немагчыма. Для беларусаў гэта толькі на карысьць. Калі праз беларускую мову ў вушы ўліваюць атруту для мазгоў – то лепш пазбавіцца гэтага кавалачка беларускамоўнага прадукту, чым падхапіць нявылечную бацылу. Жыцьцё поўніцца складанымі выбарамі...

**Віталь ВОРАНАЎ**



### Уплаты ў Згуртаваньне
**Складкі й ахвяраваньні:**

А. Аверын ................60
Я. Кобак .................60

**Усім шчыры дзякуй!**

***Шаноўныя сябры!*** *Калі ласка, своечасова абнаўляйце падпіску на “Весткі й Паведамленьні”. Стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча.*

### Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **2-га лістапада 2019 г.** а **6-й** вечара ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

А. Аверын ..................30
Т. Бужынская .............30
Я. Кобак ....................30
К. Кузьменка ..............30
І. Мілеўская ...............30

**Шчыры дзякуй!**